# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1602) ГОД XXXII БЕЛАСТОК, 25 СТУДЗЕНЯ 1987 г. ЦАНА 10 зл.



Фота Л. Тарасэвіча

## З рэпарцёрскіх запісак




У Чыжыкі запрасіў мяне інжынер Ян Лаўрыновіч, жыхар гэтай вёскі. Сустрэліся мы зусім выпадкова, ля сяброўскага вогнішча ў лесе за Саколкай.

— Вы — з „Нівы“? Ну, бачыце, усюды бываеце, пра ўсіх пішаце, а Чыжыкі — мінаеце, — зусім справядліва дакараў мяне наш чытач. Сапраўды, не давялося ў час маіх рэпарцёрскіх вандровак па Беласточчыне спыніцца ў Чыжыках. Я ледзь уцяміў, дзе шукаць гэтую вёску.

Чыжыкі расселіся між Новым Беразовам і Новым Корнінам, у 5-6 кіламетрах ад Гайнаўкі, але крыху збоку ад галоўных дарог, хаця цераз Чыжыкі ходзіць ужо ПКС.

— У нас людзі яшчэ свайго не цураюцца, — заахвочваў мяне Ян Лаўрыновіч.

Навокал нас клубіўся гаманлівы натоўп ужо крыху падхмеленых гурткоўцаў, сабраўшыхся з усіх куткоў Беласточчыны. Я прывык, што ў такіх абставінах найболып шчырыя беларусы пераходзяць на дзяржаўную. А ён адазваўся па-беларуску. Беларускай літаратурнай мовы лізнуў толькі ў пачатковай школе ў сваёй роднай вёсцы. Пасля быў тэхнікум дрэваапрацоўчай прамысловасці ў Гайнаўцы і факультэт па тэхналогіі дрэва Вышэйшай школы вясковай гаспадаркі ў Варшаве. Хацелася яму як мага хутчэй стаць самастойным чалавекам. Маці здаўна жыла адзінокай. Адна на гаспадарцы.

— Ноччу за кніжкамі, а ўдзень наймаўся я да працы ў студэнцкай спулдзельні, — раскрывае ён тайну свайго поспеху.

З дыпломам інжынера вярнуўся ў Гайнаўку. Восем гадоў працаваў на Гайнаўскім прадпрыемстве дрэваапрацоўчай прамысловасці. Урос ужо ў гэтае асяроддзе. Абзавёўся сям'ёю Аднак яго неспакойны дух падбухторваў да чагосьці іншага, болей маштабнага, чым аднародная, кожны дзень аднолькавая фабрычная прадукцыя. Ян Лаўрыновіч рашыў паспрабаваць жыць і працаваць на ўласны рахунак.

— Магчыма таму, што рос я практычна без бацькі, дык пацягнула мяне да бацькоўскай зямлі, — кажа ён у задуменні.

Наведаў я яго ў сталярскай майстэрні, сярод дрэваапрацоўчых станкоў і гатовых, адшліфаваных дошчачак для моднай зараз унутранай абліцоўкі багатых памяшканняў, званай „базерыяй“. Ад вясны да позняй восені шмат часу займае яму гаспадарка. А гэтая майстэрня ў яго дадатковы занятак, хаця ён паўнапраўны рамеснік. Сем з лішнім гектараў зямлі, з якой аж чатыры га адвёў пад сад.

— Я з маленства марыў, каб мець уласны сад, — прызнаецца інжынер Лаўрыновіч.

Бачыў я гэты сад. Цяжка яго не заўважыць. За высокай, двухметровай сеткай роўнымі радамі яблынь распасціраецца ён зараз за Чыжыкамі. У мінулым у 1986 годзе Лаўрыновіч сабраў свой першы плён, нейкіх 10 тон яблыкаў.

— Каб вы бачылі, якія прыгожыя яблыкі ў яго ўдаліся! — захапляецца пані Аня, солтысава жонка, якая жыве на хутары, якраз побач з Лаўрыновічавым садам.

Мяне ў першую чаргу здзіўляла яго неўтаймаваная энергія, яго прага жыцця „на поўны газ“. Тоўстую кніжку можна было б напісаць пра гэтага маладога селяніна, жыхара вёскі Чыжыкі. Інжынер, рамеснік, садавод, грамадскі дзеяч. За вугламі старэнькай хаткі ўжо заліты фундаменты пад аграмадны асабняк — 9,5x12,5 м, на высокім фундаменце, з месцам на гараж і ўсімі іншымі сучаснымі выгода-

(Працяг на стар. 4)

## У Бельскім аддзеле

21 снежня 1986 г. у Бельску-Падляшскім адбыўся пленум праўлення Бельскага аддзела БГКТ. Старшыня праўлення Васіль Ляшчынскі зрабіў справаздачу аб дзейнасці аддзела ў 1986 г. і прадставіў праект плана дзейнасці ў 1987 годзе.

Мінулы год быў у Бельскім аддзеле даволі плённы. Добра працаваў яго актыў. Сістэматычна вялася статутовая дзейнасць у гуртках. Членскія складчыны аплочаны ў 90%. У раёне Бельска было прададзена 1200 экземпляраў Беларускага календара на 1986 г. Многа арганізавалася культурных мерапрыемстваў. У Бельскім доме культуры праводзіліся раённыя эліміналцыі конкурсаў, якія арганізавала Таварыства. Там жа адбыўся фінал конкурсу „Беларуская песня '86“ для школьнікаў, а інструментальны калектыў з Дома культуры акампаніяваў маладым спевакам. Там таксама адбыўся агляд аматарскіх сцэнічных калектываў.

У чэрвені 1986 г. прайшоў Дзень беларускай культуры. Былі наладжаны выстаўкі дзіцячых малюнкаў, народнай вышыўкі і абрадавага печыва. „Белавежцы“ Ян Чыквін і Віктар Швед сустрэліся са школьнай моладдзю, а на бельскай летняй эстрадзе выступаў Гайнаўскі беларускі хор.

У Бельску ў мінулым годзе ўзнік маладзёжны тэатр паэзіі „Парнас“, а славутыя „Васілёчкі“ далі 21 канцэрт.

Сярод членаў БГКТ вялася праца па збіранні грошай і экспанатаў для будучага Беларускага музея ў Гайнаўцы.

У дыскусіі дырэктар Бельскага дома культуры, член Прэзідыума ГП Сяргей Лукашук праінфармаваў аб планах разбудовы будынка Дома культуры, у якім будзе таксама даволі месца і на клуб БГКТ. Прапанаваў ён, каб члены хору „Васілёчкі“ вялі падрыхтоўку школьнай моладзі да песенных конкурсаў. Уладзімір Раеўскі гаварыў аб нястачы фінансавых сродкаў на арганізаванне культурна-асветных мерапрыемстваў у аддзеле.

Павел Лемеш лічыць неабходным стварыць пры „Васілёчках“ танцавальную групу. На яго думку, у Бельску ёсць такія магчымасці. Да гэтага трэба заангажаваць моладзь, якая вучыцца ў прафесіянальных школах і працуе на прадпрыемст-

(Працяг на стар. 4)




# АБ „БАЦЬКАХ" ПУШЧЫ

У час акупацыі немцы высялілі пушчанскія вёскі. Вывезлі і жыхароў вёскі Масева. У маю вёску прыехаў жыхар гэтай вёскі Аксенцій Даратынка. Пасяліўся ён у сваёй дачкі, якая выйшла замуж за майго дваюраднага брата Валодзю Баршчэўскага. Жылі мы ў розных хатах, але на тым самым панадворку. Я быў тады хлапчуком і вельмі любіў, калі мне Даратынка апавядаў розныя пушчанскія гісторыі. Было яму ў той час, мабыць, каля сямідзесяці гадоў і ён дасканала памятаў царскія часы і якраз аб іх гаварыў найчасцей. З асаблівым замілаваннем аддаваўся ён роздумам аб рускіх царах, якія наведвалі Белавежу. Рускіх цароў называў ён бацькамі пушчы. Даказваў, што яны вельмі дбалі і пра дрэвы, і пра звяроў, і пра пушчанскі люд. Мушу прызнацца, што любоў і пашану да цароў патрапіў Аксенцій зашчапіць і мне. І пасля нашых размоў я доўга не мог заснуць і шчыра шкадаваў, што не жыў у тых часах, калі былі цары. І здавалася мне, што высакародных цароў любілі не толькі пушчанскія людзі, але захапляліся імі і любілі іх і дрэвы, і звяры, і птушкі, і насякомыя. Ішлі гады. Мабыць, ужо гадоў трыццаць няма на свеце Аксенція Даратынкі, а мае погляды на цароў досыць радыкальна змяніліся. Аднак па сутнасці да нядаўна не меў я аўтарытэтных матэрыялаў, якія сведчылі б аб сапраўдных адносінах рускіх цароў да Белавежскай пушчы. І вось, знаходзячыся нядаўна ў Мінску, сутыкнуўся я з многатомнай прыгожай кнігай „Живописная Россия", якая на пераломе XIX і XX стагоддзя друкавалася як дадатак да часопіса, які, як і наша беластоцкая „Ніва", таксама называўся „Нива". Трэці том „Живописной России" прысвечаны Літве і Беларусі. І вось у гэтым томе знаходзіцца артыкул, які дасканала характарызуе „бацькоўскія" адносіны рускага цара да Белавежскай пушчы. Вось ён:

„В летописах Беловежской Пущи памятны будут дни царской охоты 6 и 7 октября 1860 г. по великолепной обстановке, по количеству убитого зверя превосходящей все прежние этого рода охоты. За три недели до назначенного срока прибыли в Беловеж для устройства охоты товарищ министра государственных имуществ, генерал Зеленый, и его егермейстер граф Ферзен. Все ведомство гродненской палаты государственных имуществ съехалось в Белавеж, и эта деревня преобразилась в красивое и многолюдное местечко. Дом местного лесничества преобразован был в охотничий дом, богато и со вкусом отделанный. Для ожидаемых высоких гостей устроено было помещение у лесопромышленника, иностранного негоцианта Симунда, которого контора превращена была в роскошный палаццо. Для свиты и разных сановников воздвигнуты были новые и переделаны старые домики. Тысячи народа стеклось в Беловеж из окрестных мест, некоторые за 50 и более вёрст. Выписаны из разных мест самой лучшей породы охотничьи собаки. А бедные зубры присматривались ко всему этому с любопытством, не догадываясь, какую роль они-то играют в этих приготовлениях. На 9-ой версте от Беловежи, вблизи дороги, ведущей в деревню Гайновку, растянуты были тенеты, имея вид овала и занимая в окружности две квадратные версты. Здесь была устроена ложа для Государя Императора и в одну с нею линию 11 беседок для высоких гостей, а также особая галерея для публики. 4-го октября прибыли в Беловеж принцы Карл и Альберт Прусские, принц Август Виртенбургский и принц Фридрих Гессен-Кассельский. 5-го числа им показывали окрестные места и свезли в самую глушь пущи, в такую глушь, где рука человека не коснулась ни одного из этих великанов, где даже самая неистовая буря не могла устрашить их своим гневом, куда не

(Працяг на стар. 6)




## НОВАЯ ФОРМА ГАНДЛЮ

Напярэдадні Новага года ў мінскім універмагу „Беларусь" адкрылася секцыя, пакупнікамі якой могуць стаць жыхары любога населенага пункта Савецкага Саюза. Трэба толькі напісаць сюды пісьмо і паведаміць, якую менавіта рэч яны хацелі б набыць. Калі выраб ёсць у продажы, яго вышлюць.

Новую для дзяржаўнага гандлю форму — да гэтага часу ў рэспубліцы яна была толькі ў нямногіх фірменных магазінах — плануецца развіваць і далей. Заказаць і атрымаць па пошце можна сувеніры і вырабы мастацкіх промыслаў, многія тавары штодзённага попыту: прадметы гаспадарчага ўжытку, вырабы для спорту і адпачынку, гадзіннікі і малагабарытныя радыётавары, прадукцыю прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці. Словам усё, што не баіцца лішняй транспарціроўкі і не перавышае гранічных аб'ёмаў паштовых адпраўленняў. Выключаны з гэтага спісу толькі дэфіцытныя тавары.

## „АЎКЦЫЁН ІДЭЙ"

„Аўкыён ідэй", аб'яўлены сярод рацыяналізатараў і вынаходнікаў Жлобінскага вытворчага аб'яднання штучнага футра, сабраў больш як 150 прапаноў. Яны накіраваны на павышэнне якасці работы на розных участках тэхналагічнага ланцуга, аўтаматызацыю і механізацыю працаёмкіх працэсаў, паляпшэнне арганізацыі працы. У аб'яднанні працуюць 230 рацыяналізатараў і вынаходнікаў.

## БЕЛАСТОЦКІЯ ЖУРНАЛІСТЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Нядаўна на Гродзеншчыне пабывалі беластоцкія журналісты. Як паведамляе „Гродненская правда", знаёміліся яны з арганізацыяй работы прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў і саўгасаў. Газета апублікавала падборку матэрыялаў гасцей. М. Сухажэбрскі („Газета Вспулчэсна") выступае за пашырэнне суседскага супрацоўніцтва ў сельскай гаспадарцы, Б. Расінска („Кур'ер Подляскі") піша аб індывідуальным жыллёвым будаўніцтве ў Польшчы, В. Кабылінскі („Кур'ер Подляскі") аб беластоцкім гандлі, З. Лупінскі („Газета Вспулчэсна") аб экспартнай прадукцыі элцкага холадакамбіната.

## МЛЫН ДЛЯ КУХНІ

Выпуск машынкі для размолвання спецый асвоіў калектыў цэха тавараў народнага спажывання Баранавіцкага завода станкапрылад. Машынка універсальная: акрамя прыгатавання духмяных прыпраў з перцу, карыцы, кмену і іншых вострых дабавак, можа быць выкарыстана як ручная кавамолка. Прыгожы і яе вонкавы выгляд.

Баранавіцкія станкабудаўнікі выпускаюць сёння шырокі асартымент тавараў — ад розных кухонных прылад да мэблевай фурнітуры і гімнастычных масажораў.

## ТАЯМНІЦА СМЕРЦІ КАРАЛЯ

У Гродне ў канцы снежня мінулага года адбылася міжрэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па тэме „Гісторыя матэрыялізму і медыцына ў Беларусі". Наладзілі яе Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі ды Гродзенскі дзяржаўны медычны інстытут. Прымеркаваная яна была да 400-годдзя першага анатаміравання на Беларусі.

У пачатку снежня 1586 г. на Гарадзеншчыне панавалі надзвычай лютыя маразы. Кароль Стэфан Баторый захаладзіўся на паляванні ў пушчы, у пяці мілях ад Горадні, і праз нейкі час памёр. Адносна прычынаў ягонае смерці не было адзінае думкі, бо кароль і дагэтуль часцяком хварэў і з гэтае прычыны тройчы пісаў завяшчанне. Прыдворныя дактары, абодва італьянцы, Нікола Бучэла і Сымон Сімоні, каб вырашыць спрэчку, зрабілі ўскрыццё трупа. Аднак і пасля гэтага на адным меркаванні яны ўсё ж не зышліся. Таямніца смерці караля і праз стагоддзі не пакідае турбаваць вучоных.

Пра ўсё гэта прысутным расказалі даследчыкі В. Грышкевіч (Ленінград) і Ф. Ігнатовіч (Гродна).

**А. Клімовіч**




## БЮДЖЭТ ВАЙНЫ

Днямі быў прадстаўлены на разгледжанне кангрэса ЗША праект федэральнага бюджэта на 1988 фінансавы год. Як і папярэднія галоўныя фінансавыя дакументы Белага дома, цяперашні — хутчэй бюджэт вайны, чым бюджэт чалавечых патрэбаў. У ім, як у люстры, адбіліся самыя агрэсіўныя мілітарысцкія канцэпцыі Вашынгтона, яго маніякальны курс на ўзлом парытэту між СССР і ЗША, здабытак стратэгічнай перавагі шляхам фарсіравання стварэння дэстабілізуючых сістэмаў, і ў першую чаргу касмічнай зброі „зоркавых войнаў".

Быццам пацвярджаючы поўны адыход ад вынікаў сустрэчы ў Рэйк'явіку, адміністрацыя фактычна заяўляе, што яе філасофія далёкая ад практычных крокаў у напрамку ліквідацыі ядзернай зброі, ад вырашэння праблемаў міру і бяспекі.

Праект новага бюджэта складзены па прынцыпу перапампоўвання сродкаў з унутраных праграмаў у праграмы ўсебаковых ваенных падрыхтовак. На наступны фінансавы год запланавана выдзеліць Пентагону 312 мільярдаў долараў: адразу на 23 мільярды долараў больш, чым было асігнавана ў бягучым годзе. У цэлым жа на працягу наступных пяці год адміністрацыя прадугледжвае сумарныя ваенныя выдаткі ў 1,8 трыльёна долараў! Ужо адна гэта лічба гаворыць больш, чым любыя словы.

Галоўным пентагонаўскім прынцыпам аб'яўляецца праграма „зоркавых войнаў", на патрэбы якой прадбачваецца патраціць 5,2 мільярда долараў, або на 62 працэнты больш ад цяперашніх асігнаванняў. Дадатковыя мільярды закладзены ў будаўніцтва сістэмаў зброі першага ўдару — міжкантынентальнай балістычнай ракеты MX, мабільнай ракеты „Міджытмен", а таксама падводных лодак „Трайдэнт"...

Бюджэтныя вылічэнні забіраюць (у параўнанні з папярэднімі лічбамі) прыкладна 25 мільярдаў долараў з сацыяльных асігнаванняў, востра неабходных краіне. На плаху скарачэнняў пасылаюць жыллёвае будаўніцтва, транспарт, дапамогу гарадам, фермерам, бедным, медыцынскае абслугоўванне, адукацыю...

Назіральнікі прадказваюць вострую канфрантацыю між адміністрацыяй і кангрэсам навокал новага бюджэта. Чым бы не закончылася гэтая канфрантацыя, яўна, што палітыка федэральных улад усё мацней разыходзіцца з сапраўднымі патрэбамі краіны, з інтарэсамі міру.

**В. Г.**




Пентагонавец: — А думка пра мір не выходзіць у мяне з галавы! Мал. М. Літвіна.

# ФІЛЬМ ПРА ВАЙНУ

Фільм „Ідзі і глядзі“, пастаўлены ў 1985 г. на кінастудыі „Беларусьфільм“ рэжысёрам Эленам Клімавым, увайшоў на экраны польскіх кінатэатраў ужо праслаўлены, абсыпаны ўзнагародамі. Ён заваяваў залаты медаль і ўзнагароду Fipresci на XIV Міжнародным кінафестывалі ў Маскве, Залатую плакетку на XII кінафестывалі ў Авеліна (Італія), галоўную ўзнагароду на I кінафестывалі ў Троі (Партугалія) і спецыяльную галоўную ўзнагароду на XIX кінафестывалі ў Алма-Аце. Прасякнуты наскрозь антываенным, антыфашысцкім пафасам, фільм карыстаўся вялікім прызнаннем усюды, дзе яго паказвалі, хаця адначасова ў гледачоў выклікаў шок вобразамі трагічнага твару вайны. Несумненна, „Ідзі і глядзі“ — гэта найвялікшае творчае дасягненне Э. Клімава, між іншым, аўтара вядомых польскім гледачам фільмаў „Вітаем — уваход забаронены“ і „Агонія“.

Сцэнарый фільма „Ідзі і глядзі“ напісаў беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч, паводле сваёй „Хатынскай аповесці“. Першапачатковы яго загаловак „Заб'еце Гітлера“ і толькі перад самай пастаноўкай зменены на „Ідзі і глядзі“ — словы, узятыя з Апакаліпсіса, прыводзячыя на думку біблейскі „канец свету“.

Падзеі ў фільме адбываюцца на Беларусі. Год 1943. Чатырнаццацігадовы Флёра выкопвае на полі бою вінтоўку. З уласнай зброяй уступае ў партызанскі атрад. У хаце астаецца маці з дзвюма некалькігадовымі дзяўчынкамі. У атрадзе Флёра знаёміцца з Глашай. Паміж імі пачынае нараджацца каханне.

Немцы прымушаюць партызанаў эвакуіраваць свой лагер. Флёра з Глашай забягаюць у родную вёску. Застаюць у ёй мёртвую цішыню і стус голых пакарэжаных целаў. Толькі нешматлікім жыхарам вёскі ўдалося схавацца на востраве сярод балотаў.

Флёра ўваходзіць у састаў разведкі, якая ідзе на пошукі харчоў. Неўзабаве гінуць усе яго таварышы, а Флёра трапляе ў вёску, навокал якой заціскаецца кальцо гітлераўскага акружэння. Салдаты выганяюць усіх жыхароў з дамоў і ўпіхваюць іх у царкву, якую падпальваюць. Флёра з'яўляецца нямым і бяссільным сведкам гітлераўскага злачынства.



Кадр з фільма „Ідзі і глядзі“.

Пакідаючы вёску, фашысты знішчаюць усё. У лесе натрапляюць на партызан. Нямецкі атрад разбіты. Уцалелы Флёра трапляе на месца крывавага бою. Паяўляецца постаць згвалчанай, распухшай ад біцця дзяўчыны.

У час палявога суда над камандзірамі пацыфікацыйнага атрада віноўнікі адмаўляюцца ад сваіх злачынстваў. Аднак Флёра распазнае сярод іх галоўнага ката. Злачынцаў расстрэльваюць. Пасля экзекуцыі хлапец страляе ў кінуты ў лужыну партрэт Гітлера.

Э. Клімаў зрабіў фільм, патрэба нам, сучасным. Маладыя гледачы, якія запаўняюць сёння залы кінатэатраў, сапраўднай вайны не ведаюць. Фільм Клімава паспяхова спраўляецца з усведамленнем ім, што гэта значыць — вайна. У фільме шмат сцэн лютых, трагічных. Хтосьці можа сказаць, што нават замнога іх. І ўсё-такі яны прадстаўляюць толькі частку таго, што старэйшае пакаленне ведае аб акупацыйнай ночы. Усе гэтыя сцэны вызваляюць у маладога гледача гнеў, боль і жах. Яны маюць задачу накіраваць яго актыўнасць супраць падрыхтоўвання новага, атамнага знішчэння. Чалавек, які ўбачыў усё зло, на якое ён можа быць здольны, несумненна, адкіне насілле і подласць.

„Ідзі і глядзі“ — гэта наша памяць аб спаленых фашыстамі вёсках і гарадах, адначасова і гісторыя станаўлення душы падлетка.

Фільм здымаў Аляксей Радзіёнаў (гэта яго трэцяя праца). Музыку напісаў Алег Янчанка. У фільме здымалася мала прафесіянальных акцёраў. Гэта дзеля большай аўтэнтычнасці вобразаў. У масавых сцэнах прымалі ўдзел жыхары беларускіх вёсак.

**Пётр Байко**

# У ОРЛІ НЕ ХОЧУЦЬ ЧАКАЦЬ

Гэта партыйная арганізацыя запачаткавала ў Орлі вялікі грамадскі зрух. Былі падрыхтоўчыя працы, многа захаду, пісаніны, бегатні, тлумачэння і даказвання. Многія з блізкіх і з далёкіх, бывала, і не верылі, што ўдасца некаторыя ўстарэлыя арлянскія справы крануць з месца. Улады на розных узроўнях вынаходзілі розныя перашкоды. А ўсё ж такі ўпартасць і ўменне бараніць свае рацыі дапамаглі пераадолець бюракратычныя бар'еры. І цяпер у Орлі рушыла.

На вялікім пляцы на вуліцы Бельскай ідзе пабудова школы. З дзейснай дапамогай прыйшло насельніцтва Орлі і суседніх вёсак — людзі многа працуюць грамадскім пачынам.

Распачаўся ўрэшце і рамонт выдатнага помніка культуры Орлі — сінагогі. Яна доўгія гады нішчэла, сумна стоячы з паіржавелай таблічкай ваяводскага захавальніка помнікаў культуры аб тым, што гэта — каштоўны аб'ект. Арлянская сінагога пасля рамонту будзе цэнтрам культуры для ўсяе гміны. Планы яе выкарыстання шырокія і багатыя. Гэта вялікі будынак, і ў ім знойдуць сабе месца старыя і маладыя, будуць і экскурсіі, нават заграничныя. Нам стала вядома, што сакратар гміннага камітэта партыі ў Орлі наладзіў сувязі з Яўрэйскім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы, якое абяцае дапамогу ў абсталяванні адрамантаванага аб'екта. Будуць адноўлены на сценах каштоўныя фрэскі.

Ідзе вялікі рамонт арлянскіх вуліц. Кладуць асфальт, тратуары. Ужо вунь якая стала прыгожая вуліца Чырвонай Арміі. Грунтоўна рамантуецца вуліца Кляшчэлеўская.

У 1987 г., найпазней у 1988, пачнецца ў Орлі пабудова асяродка здароўя, па-сапраўднаму сучаснага і добра абсталяванага, з кватэрамі для лекараў.

У Орлі злуюцца, што не да канца рэалізаваны вельмі важны пункт праграмы дзейнасці, менавіта: увядзенне ў план пабудовы на 1987 год новай керамічнай фабрыкі. Мы аб гэтай справе пісалі вельмі крытычна. Справа ў тым, што ваяводскія ўлады па справах будаўнічай керамікі ў Беластоку наляпілі сабе ў гэтай справе нейкае бяльмо на вочы, хоць ведаюць дакладна, што найбольш лагічна і найбольш эканомна пачаць пабудову цагельні якраз у Орлі. Яны не бароняць Орлю ў міністэрстве. А чаму? Гэта яны толькі самі ведаюць. Сакратар ГК ПАРП Іван Кубаеўскі паставіў гэту справу нават на старонках „Трыбуны люду“. Таксама — яшчэ раз у Міністэрстве будаўніцтва і будаўнічых матэрыялаў. Там, у міністэрстве, абяцалі справу перагледзець. Можа, будзе рашэнне аб паскарэнні пабудовы арлянскай керамічнай фабрыкі — гэтага вельмі важнага прадпрыемства для ўсяго мікрарэгіёна. Арлянская гміна чакае сваёй вялікай ролі, каб штурхнуць урэшце наперад наша будаўніцтва, якое чарапашным крокам цяпер ходзіць, найперш з прычыны недахопу будаўнічых матэрыялаў. (вл)

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# ФЁКЛА

Запах кіслага бруду б'е ад ануч на прыпечку. Фёкла тупае каля пліты, перасоўвае задымленыя гаршкі.

— От, бачыш, зараз паямо, — усыпае крупу ў кіпецень.

Фёкла паміж парослых брудам бутэлек і патускнелых слоікаў, пакамечаных тлустых газет ловіць нейкі пакуначак і развівае з яго худую ялавічную костачку, укідае яе ў гаршчок. Выцірае сукаватыя пальцы аб спадніцу, прысядае на хісткім столачку, падпірае рукою лоб у цёплай шэрай шапачцы.

— А чаго аб такіх, як я, пісаць? Я ўжо нікому не патрэбна, і жыццё маё нікудышняе. От, каб якія свае ўнучкі былі, было б чым пахваліцца. А то — век пражыла, нічога не нажыла, нават і памяць ужо рассыпаецца, дзетачка. Ой, гора, гора, калі ты адзін, як палец, усё жыццё. Калі яшчэ робіш, то яшчэ свой, але і так — усё, як з ласкі...

Выйшла была сястра Фёкліна замуж, не вельмі каб багата, але ў хату новую, за хлопца не прыгажуна, але людскога. Як на сірату, добра трапіла, бо і Фёклу ўзяў, кульгавую, да сябе ў хату. І так прытулілася да чужога жыцця, у сваім куточку за печкай, на лаве, са сваім ніколі не паказаным людзям тухлым пасагам у зялёным куфэрку.

Радзіліся сястрыны дзеці, паміралі, кормленыя бульбай і мякінай, многа іх забрала вайна. Вёску на ўскраіне пушчы спалілі немцы. За возам, па берагі напоўненым худым дабыткам і дзецьмі, ішла Фёкла, пхаючы гнаянкі на падмогу коням.

На абгарэлым падмурку паставілі хацінку са збіраных бэлек. Ну, жылі, як усім жывецца. Вядома, як гэта ў сям'і — паб'юцца і пацалуюцца, а ты, Фёкла, носа не сунь і не пісні, сядзі на сваёй лаве, як мыш пад мятлой, і пільнуй свае міскі, калі табе яшчэ туды ўкідаюць...

Так няспынна праміналі будні і святы, леты і зімы. Памерлі сястра і яе муж. Паляцелі дзеці па свеце па навуках усялякіх, па службах. Адна толькі Зося асталася тут, у вёсцы, замужам. Оля, каханая, адзіная, якая называла Фёклу цёцяй, далёка, у Вроцлаве. А ў вёсцы і стары і малы — „Фёклай“ яе звалі. Імя мянушкай стала.

Хто такая Фёкла? Гэта старое, дурное, сляпое, кульгавае і згорбленае, паморшчанае і брыдкае, што калочкам пагражае дзецюкам, якія з-за платоў кідаюць у яе агрызкамі няспелых яблык.

Разабрала Зося з мужам старую гнілую хату. Паставілі мураванку, вялізную, пад этэрнітам. Нават на паддашку ёсць вялізныя два пакоі для дарослых ужо Зосіных дачак. І вада ідзе сама з трубаў, і вада грэе, жыць — не ўміраць. А Фёкла асталася жыць звонку, у чорных сенцах ад старой хаты, якія прытулілі-

(Працяг на стар. 6)




### ПУСТАЗВОНЫ

Не адзін я пераканаўся на ўласнай скуры, што тыя людзі нашы, якія дарваліся да так званага карыта і залезлі на высокія пасады, зусім забыліся пра сваю родную мову, таньбуюць ёю. Такі наш людзін не дапаможа ў бядзе земляку! Хутчэй у зубы яму дасць, чым руку працягне з помаччу якою. Гавару я, вядома, пра нашых некаторых беларусаў, якія ўсё робяць, каб перастаць быць беларусамі.

Няраз дзіўлюся: як гэта ёсць, каб нармальны чалавек мог аж так нізка ўпасці? На гэтае пытанне дае частковы адказ наш славуты Алесь Барскі ў сваім публіцыстычным цыкле „Аб найпрыгажэйшых, найразумнейшых і найлепшых". Барскі піша, што некаторыя бацькі выхоўваюць дзяцей у атмасферы культу ўласнай фізічнай і духоўнай дасканаласці. Вынікі таго выхавання потым страшэнныя! Вінаваты тут, перш за ўсё, бацькі — маці з таткам. Але ці толькі яны? Нярэдка вырастае пачвара з чалавека таму, што з благімі людзьмі ён звязаўся пасля, або проста таму, што яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца. Калі бацька бандыт, то і сын яго таксама пераважна бандытам робіцца. Хоць не заўсёды, праўда. А такога з бандыцкім характарам ужо і турма не перавыхавае і людзі не маюць на яго ўплыву. Не перародзіцца

Прыкра слухаць, калі свой чалавек гаворыць з табой не па-свойму, не па-беларуску. Але гэта найчасцей тыя, якія пакончалі ўсякія важныя школы. І што? — школы тыя ім так душы пакрывілі? Няўжо там вучаць не шанаваць сваіх і свайго? Не, напэўна не вучаць таму, але: дай прасцяку адукацыю, то возьме і ашалее, зазнаецца. Панам захоча быць, каманду над іншымі мець.

А ўсё тое, як Барскі піша, ад культу адзінкі сваёй бярэцца, ад таго выхавання дзіцяці, якому ад малога люлюкаюць: „А разумненькі ты, а харошанькі, а спрытны які!" Ну, і расце такі хлапчук, а на ім рогі ўсё большыя і вастрэйшыя, якімі так і парне — каго ў жывот, а каго і ў зад знячэўку.

На мой погляд, вучоны чалавек — гэта такі, які шануе сваіх, даражыць сваёй роднай мовай і культурай, бо ён ведае, што няма на свеце наогул культуры, культура ўвогуле не існуе, культура — гэта сума нацыянальных культур, як сцяна ёсць сумаю цаглін ці пустакоў. Зніштажаючы сваю культуру, ты зніштажаеш гэтым самым частку культуры цэлага свету. Вучоны чалавек гэта разумее, а дурань з дыпломам не разумее і яшчэ дыпломам сваім размахвае, быццам дыплом гарантуе яму розум. Дыплом гэта не гарантыя на тавар, дурному дыплом гэта няшчасце, бо сваю дурноту тады ён трактуе як разумнасць вялікую.

Прыкладам разумнага чалавека ў нашай ваколіцы ёсць для мяне Уладзімір Вэршка. Ён — інжынер і робіць у нашай Дубіцкай гміне. Я ніколі не бачыў.

(Прапяг на стар. 7)

## Свойскія малюнкі



*Стары дом на вуліцы Чырвонай Арміі ў Сямяцічах.*
*Мал. Уладзіслава Петрука.*

**ТАК БЫВАЕ...**

## ЯК ЧЫЁ ШЧАСЦЕ

— Во як Надзі, столькі і пажыла, што адна. Замуж пайшла за маладзейшага ад сябе. Спачатку згода між імі была, яе чалавек за гаспадарку быў узяўся. Нават машынаў усякіх накупіў, і такую цэнтрыфугу таксама. І на табе! Узяў ды памёр!

— А мая ты саколіца, — загаварыла бабка Наста. — Гэта як чыё шчасце. Ні пра каго я тут гаварыць не буду. толькі пра дачку сваю. Старэйшыя дочкі замуж павыходзілі, а яна, найменшая, не выйшла. Шчасця ў яе не было. Я ўжо думала, што ў старых дзеўках яна звякуе. Пасватаўся быў да яе адзін хлопец. Піў ён вельмі. Але яго браты не былі такімі. Адзін з іх то і вельмі акуратны. А гэты, што сватаўся, ну, рыхтык лахман які! Прытым і лаханда. Але Маня мая гэтая кажа: пайду за яго Ну, думаю, ідзі. Гэта ж ты з ім жыцьмеш. Ён зваўся Міша. Неяк пад вечар бачу, выносяць таго Мішу п'янюткага з суседавай хаты. Так напіўся, што і абрабіўся, гідка казаць! Клічу я гэта Маню сваю і гавару: глядзі! Як ты дзяцей сваіх гадавацьмеш пры такім чалавеку? А ён табе іх насыпле на ўсе калыскі, адно будзе яшчэ ў пушку, а другое ўжо ў трыбушку... Лайдаком будзе, а не мужам. І вочы свае выплачаш, і загадзя са свету белага цябе ён звядзе. Лепей ужо ты адна жыві, чымсьці за такога б ісці мелася.

Маня адмовіла Мішу.

Прыйшоў другі, цяперашні яе чалавек. Сірата ён быў, галытва. На шлюб купілі мы яму касцюм і боты. Думалі, добры будзе. Ды дзе там! Паступіў на работу, а там калегі хутка давялі яго да чаркі. Нават біцца пачаў, паскуднік. А Міша той, калі ажаніўся, то, ведаеш, саколка мая, піць кінуў, во як! У Гайнаўцы ўжо жыве, а яго жонка аб дабры сваім не ведае! Разрабілася яна, як пані якая! І так, саколіца мая, думаю сабе: ад пісанага табе нікуды не падзецца, што суджана, тое і будзе. Мані маёй п'яніца быў суджаны, і п'яніца знайшоўся. А калі шчасця няма, то нічога ўжо няма. Можаш мець у хаце нават усяго поўна, але яно не будзе радасна, пуста будзе ў душы, пуста і ў свеце тваім, так, як бы ты адна жыла без людзей...

Бабка Наста заціхла. У яе ўжо не было сілы хоць бы на слязу.

**Аўрора**

(Працяг са стар. 1)

### У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

ваx горада. У гэтым асяроддзі трэба стварыць гурткі БГКТ і весці актыўную дзейнасць. Вера Рышчук сказала аб патрэбе блізкага супрацоўніцтва і спаборніцтва ў розных галінах моладзі з беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. Уладзімір Сычэўскі звярнуў увагу на неабходнасць рамонту клуба БГКТ у Бельску. Пасля рамонту трэба прыдбаць новае абсталяванне і апаратуру. Неабходна таксама актывізаваць дзейнасць гарадскога гуртка БГКТ.

Удзельнікі пленума прынялі галоўныя напрамкі дзейнасці аддзела ў 1987 г. У адрас Галоўнага праўлення БГКТ яны накіравалі пастулаты:

— дапамагчы ў рамонце памяшкання клуба БГКТ;

— арганізоўваць з удзелам этнографаў нарады са збіральнікамі экспанатаў у будучы музей у Гайнаўцы;

— пастаянна праводзіць у Бельску-Падляшскім фінальны агляд конкурсу „Беларуская песня" для школьнай моладзі.

Гледзячы на вынікі дзейнасці Бельскага аддзела БГКТ у мінулым годзе, можна меркаваць, што 1987 год будзе яшчэ больш плённым, а прынятыя ім заданні будуць паспяхова выкананы.

**В. Луба**

(Працяг са стар. 1)

## ЧЫМ ЖЫВУЦЬ ЧЫЖЫКІ

мі. Ужо другую кадэнцыю Ян Лаўрыновіч сакратар у сваёй вясковай партыйнай арганізацыі, выбралі яго радным гміннай рады, дзейнічае ён у сельскагаспадарчых гуртках, увайшоў у састаў грамадскага камітэта па пабудове пажарнай рамізы і вясковага клуба.

— Ну, чаго ж вы да мяне прысталі! — бароніцца ён ад маіх пытанняў пра яго жыццё і справы. — Я ж запрасіў вас у Чыжыкі, каб вы напісалі пра іншых, болей заслужаных людзей. Вось суседка мая, — ён паказаў дбайна загаспадараны панадворак, з хатай, праўда, драўлянай, але прыгожа ашаляванай і адмаляванай. — Завуць яе Ніна Мартынюк. Яна ў нас старшыня гуртка вясковых гаспадынь. А нашы кабеткі вельмі актыўныя. Ідзіце да Валодзі Асіпюка. Гэта наш солтыс, камендант чыжыкаўскіх пажарнікаў і першы ініцыятар усіх грамадскіх пачынаў. Пагаварыце з Ніфарам Бурачыкам, які ў нас ўзначаліў грамадскі камітэт пабудовы нашага вясковага клуба. Зайдзіце да Сашкі Шварца і Вані Будрыка...

*

Найперш я накіраваўся да солтыса. На жаль, Уладзімір Асіпюк зранку паехаў у Гайнаўку, выклікалі яго на пасяджэнне карнай калегіі. Давялося задаволіцца сустрэчай з яго жонкай Аннай, родам з суседняй вёскі. Ужо 8 гадоў жывуць разам, гадуюць парачку дзяцей і займаюцца апрацоўкай 12-гектаровай гаспадаркі. Уладзімір Асіпюк даволі доўга ўжо супрацоўнічае з Ваяводскім асяродкам сельскагаспадарчага прагрэсу і на сваім полі практыкуе тое, што прыдумаюць вучоныя.

— У гэтым годзе мелі мы вельмі высокі ўраджай збожжа, — заяўляе солтысава жонка.

Шмат чаго яшчэ мог бы я расказваць пра іх справы, але мяне ўжо чакала старшыня гуртка вяскавых гаспадынь Ніна Мартынюк. Адразу відаць, што яна — выдатная гаспадыня. Усюды ў яе ў хаце, як кажуць, чысціня і парадак, багатая мэбля, дываны, водаправод ды газ з балона.

Гурток вясковых гаспадынь

# САМАЛЁТЫ, ВЕРТАЛЁТЫ...

У 1988 годзе польская авіяцыйная прамысловасць будзе адзначаць сваё 60-годдзе. Развіццё яе было спынена ў 1939 годзе, калі нямецка-фашысцкія захопнікі напалі на Польшчу. Аднак адразу ж пасля вызвалення было вырашана як мага хутчэй адбудаваць авіяцыйную прамысловасць. Усебаковую дапамогу аказаў тады Савецкі Саюз. Неўзабаве была наладжана прадукцыя самалётаў і планераў, хаця ўсё яшчэ не хапала высокакваліфікаваных спецыялістаў. У цесным супрацоўніцтве з прамысловасцю СССР распачалася прадукцыя верталётаў. За кароткі час шмат польскіх канструкцый заваявала прызнанне на цэлым свеце.

Сёння на дзяржаўных авіяцыйных прадпрыемствах ПНР вырабляецца шырокі асартымент авіяцыйнага абсталявання. Больш 60% прадукцыі экспартуецца ў больш чым 50 краін на ўсіх кантынентах.

**На XXV выканаўчай сесіі СЭУ была прызнана польская спецыялізацыя ў прадукцыі лёгкіх верталётаў і сельскагаспадарчых самалётаў. Цяпер польская авіяцыйная прамысловасць па вытворчасці авіяцыйных абсталяванняў для сельскай гаспадаркі займае другое месца на свеце (першае — ЗША). Кожны шосты самалёт на свеце, што выконвае паслугі для сельскай гаспадаркі, пабудаваны ў ПНР. Гэта самалёты: „ПЗЛ-101 Гаўрон", „ПЗЛ-106 Крук", „ПЗЛ-Мі Драмадэр".**

**Да адной з цяжэйшых галін авіяцыйнай інжынерыі належыць вытворчасць верталётаў. Толькі сем дзяржаў выпускае іх серыйна, і ў гэтай сямёрцы Польшча займае чацвёртае месца. Верталёт „Мі-2", які выпускаецца цяпер, эксплуатуецца ў розных атмасферных умовах. Ужо падрыхтаваны да серыйнай вытворчасці верталёт „ПЗЛ-Сокал".**

**Новым этапам развіцця польскай авіяцыйнай прамысловасці з'яўляецца яе ўдзел у выпуску аэробуса „ІЛ-86". Пры яго вытворчасці прымяняецца навейшая тэхналогія. Удзел польскай авіяцыйнай прамысловасці ў прадукцыі „ІЛ-86" складае амаль 16 працэнтаў.**

**Найбольш масава (па некалькі соцень штук у год) выпускаюцца верталёт „Мі-2" і самалёт „АН-2". Месца „АН-2" паступова займае „АН-28". Многія самалёты і верталёты выпускаюцца ў сельскагаспадарчай версіі. Больш ста самалётаў і верталётаў пастаянна выконваюць агрaпаслугі за граніцай, што прыносіць дзяржаве значны даход.**

Трэба адзначыць таксама, што па колькасці планераў, якія выпускаюцца ў Польшчы, наша краіна займае другое месца на свеце (першае — ФРГ).

Польская авіяцыйная прамысловасць на працягу апошніх сарака гадоў выпусціла амаль 16 тысяч самалётаў, больш 6 тысяч верталётаў і 5 тысяч планераў. Разам — 27 тысяч паветраных караблёў. Апрача гэтага, зроблена больш 50 тысяч авіяцыйных рухавікоў.

**У бліжэйшыя гады польская авіяцыйная прамысловасць будзе выпускаць розныя самалёты. Будуць тут самалёты мясцовага транспарту, сельскагаспадарчыя, школьныя і трэніровачныя машыны. „АН-2" выпускаецца ў наступных версіях: транспартнай, транспартна-пасажырскай, дэсантнай, геафізічнай, фатаграфічнай і санітарнай. „Мі-2" будуецца аж у 24 версіях, найбольш у пасажырскай (8 месц) і сельскагаспадарчай. „Драмадэр" бярэ 1350 кг хімічных сродкаў. Выкарыстоўваецца таксама для гашэння пажараў лесу. Знайшоў ён ужо прымяненне ў 16 краінах.**

**Міхась Хмялеўскі**




**Самалёт „Іскарка".**




# ЗАЛАТАЯ ШЫЛЬДА

Відаць, надакучылі курыныя яйкі нам, бо ў жывыя вочы смяемся з жанчын, якія жывуць на вёсцы і летні свой заробак маюць з продажы яек, што нанясуць іх курачкі. Цана ж гэтага тавару вельмі нізкая — адзін кілаграм яек каштуе на пунктах скупкі 150 зл, на рынку ў той час — 300 зл. Таму многія жанчыны, нягледзячы на цяжкасці і змарнаваны час, вязуць яйкі прадаваць на рынак. Скупшчыцы ж на вясковых пунктах скупкі зарабляюць вельмі мала. Гэтую справу я ведаю добра, бо мая жонка вяла такі пункт скупкі ў Дубічах Царкоўных. Летам гаспадыні яшчэ хоць штонебудзь прынесяць, а ўвосень і зімою — ніводнага яечка. Гаварыў я жонцы, каб звальнялася, кідала ўсё гэта. Яна ж шкадавала людзей: „Навошта ім цягнуцца ў чужую вёску на тамашні пункт скупкі?" — казала яна. І што з гэтага выйшла? Усяму вінавата была, відаць, шыльда, якая вісела на сцяне майго дома. На ёй было напісана, што тут вясковы пункт скупкі ў Дубічах Царкоўных. І ўсім вядома было, што прымаюць і калі.

**І вось аднойчы ў кастрычніку 1986 г. мой панадворак наведаў нейкі рэвізор. Пакруціўся сюды-туды, заглянуў у той свіран, дзе стаіць парнік і варыцца бульба свінням і дзе летам жонка прымала яйкі. Не сказаў, чаго хоча, чаго прыйшоў. А пасля мы даведаліся, што гэта быў кантралёр па электрычнасці.**

Пра рэвізора мы былі і забыліся. Але вось нядаўна, у снежні, наведалі мяне хлопцы-электрыкі з Орлі. Спісалі лічнік электраэнергіі, забралі кніжку, дзе налічана колькасць кілаватаў, і сказалі, што будзем за энергію плаціць патройна, таму што на сцяне вісіць шыльда — гэта значыць, што ў нас працуе нейкая дзяржаўная ўстанова. Такая выйшла пастанова і трэба ёй падпарадкавацца.

Што ж, супраць ветру не падуеш. Ды і ГС у Кляшчэлях не спяшаўся з нечым дапамагчы нам, і таму жонка рашуча патрабавала звольніць яе з працы. А з пастановай пра патройную аплату за электраэнергію я асабіста паехаў у Бельск і там аформіў справу. Цяпер за электраэнергію мы будзем плаціць па-старому. Аднак за два апошнія гады, на жаль, трэба заплаціць патройна, а гэта не менш, не больш, але роўна 13 тысяч зл. Нават адразу мне і чэк выпісалі ў Бельску...

Усе начальнікі, якіх я бачыў, рашуча заяўлялі, што гэтакая пастанова недарэчная, але што ж, яны не ў курсе справы, казалі. І так вось драўляная шыльда так дорага мне абышлася, як быццам бы з золата была зроблена.

**М. Панфілюк**

налічвае ў Чыжыках 35 асоб. На 54 гаспадаркі ў вёсцы — гэта многа.

— Старшынёю я ледзь чацверты год, — засцерагаецца гаспадыня. — Перада мной работу тут арганізавалі Марыя Койлава і Таня Леўчук. Вось яны дык папрацавалі! Курсы, конкурсы, паказы, гадоўля хатняй птушкі — усё, што недзе прыдумалі, дык было абавязкова і ў нас, у Чыжыках.

— А пры пабудове гэтага клуба...

— А як жа! — перапыніла мяне старшыня. — І пры клубе таксама. То ж цэлая вёска будуе яго грамадскім пачынам, няма бадай што ў Чыжыках такога чалавека, які не прыклаў бы сваёй рукі да гэтай пабудовы. А нашы кабеткі дык дапамагалі разгружаць цэглу, мылі вокны, наводзілі парадак. Хто? Усе аднолькава. Няма тут чаго адных хваліць, а іншых ганіць...

*

Нікіфара Бурачыка, старшыню грамадскага камітэта па пабудове гэтай рамізы і святліцы, чалавека ўжо ў гадах, але ўсё яшчэ кіпячага энергіяй, застаў я на яго панадворку. Разам з зяцем яны тупалі пры жывёле.

— Як гэта было? А ну так, што далі нам мотапомпу і не было дзе яе паставіць. А стража ў нас заснавалася яшчэ ў даваенны час, здаецца, у 1935 годзе. І пасля вайны мы дзейнічаем ад 1947 года. Час тады, каб была ў нас і сапраўдная раміза. Нашу ідэю падтрымалі Мікалай Пясэцкі, тадышні начальнік Гайнаўскай гміны, і Уладзімір Баўтрамюк, дырэктар Гайнаўскага спулдзельчага банка. Не адкінуліся ад яе і жыхары вёскі. Кожны з нас добраахвотна ападаткаваўся па сто злотых з гектара, паабяцалі мы, што ўласнымі сіламі і ўласным транспартам давязем і цэглу, і цэмент, і жвір, і пясок, і дошкі.

І слова стрымалі. Няма ў мяне месца, каб усіх іх пералічваць па прозвішчах. Але я ведаю, што амаль усе ўласнік прыватных трактараў, якія жывуць у Чыжыках, не пашкадавалі ні сваіх стальных цягачоў, ні дэфіцытнага бензіну, ні ўласных сіл, каб як мага хутчэй паявіўся ў вёсцы гэты прасторны грамадскі будынак, у якім знойдзецца месца і на вясковыя сходы, і на сяброўскія гульні, і на дзейнасць гуртка вясковых гаспадынь, і на вяселлі, і на хрысціны. Яго будаўнікі абяцалі запрасіць „Ніву" на ўрачыстае адкрыццё і тады будзе яшчэ ў нас нагода пагутарыць спецыяльна пра гэтую рамізу-святліцу і пра яе будаўнікоў. Запэўнівалі мяне, што ўрачыстасць рыхтуецца ў іх не абы-якая! Дык — да новай сустрэчы ў Чыжыках!

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 2)

# АБ „БАЦЬКАХ" ПУШЧЫ

проникали даже солнечные лучи, как будто не смея разоблачать тайн этих гигантов... Государь Император прибыл вместе с великим герцогом Саксен - Веймарским, Карлом - Александром, в 4 часа ночи с 5-го на 6-е октября.

6 октября в 12 часов Государь со своими гостями и многочисленною свитою отправились на охоту. Государь занял свою ложу, в беседках разместились великий герцог и принцы со своими свитами. Конечно зверь был согнан во множестве в эту часть пущи и окружен густою цепью. В час, по данному из Императорской ложи сигналу, выступили гончие собаки, и те погнали зверя стаей. Первый выстрел последовал из Императорской ложи. Затем началась беспрестанная стрельба из ложи и беседок. Охота продолжалась до пяти с половиною часов. Государь убил 4 зубра, 1 кабана, 2 лосей, 1 лань, 5 серн, 5 волков, 4 лисицы, всего 22 штуки. Великий герцог убил 2 зубров, прочие принцы убили 10 зубров, т.е. всего убито 16 зубров.

В 6 часов был большой обед у Государя в Беловеже. В то же время на поляне, на берегу Наревки, устроено народное гулянье с обильным угощением, в котором участвовало несколько тысяч народа. Вечером сожжён был фейерверк.

На другой день охота началась в половине одиннадцатого и продолжалась до половины второго. Государь убил 6 зубров, 7 ланей, 5 серн, 1 лисицу, 1 борсука и 1 зайца, всего 21 штуку. Другие участники охоты убили 6 зубров и 25 штук разного зверя. Вообще в эти два дня убито 28 зубров, в том числе 10 самок и 68 штук разных других зверей. Государь Император остался очень доволен охотой и благодарил главного распорядителя и знатока в этом деле, поручика Штральборна".

Калі б хто з чытачоў падумаў, што цар са сваёй світай толькі здзекваўся над пушчай, таго інфармую, што так не было. Зрабіў ён многа і для пушчы. А менавіта: „В память охоты Государь собственноручно пасадил вблизи императорской ложи деревцо ливанского кедра".

І гэта ўсё. Спомнены Аксенцій Даратынка гаварыў мне, што яго бацька, будучы хлапчуком, прысутнічаў на паляванні, на якім „цар забіў сто зуброў". У сувязі з тым, што Аксенцій нарадзіўся болей-меней каля 1870 года, дык магчыма, што яго бацька ў 1860 годзе як хлапчук быў у Белавежы і назіраў за сцэнамі вялікага царскага разбою. Ну, а вядома, што народ крыху павялічыў колькасць забітых зуброў.

Так ці інакш, прачытаўшы цэласць прыведзенага толькі ў фрагментах артыкула, я канчаткова перастаў верыць, што цары былі бацькамі пушчы. А наступныя валадары пушчы, хоць і называліся панамі, у многім бралі прыклад з імператараў.

Дарэчы, прыведзены артыкул не выйшаў з-пад пяра камунізуючага аўтара. Быў ён напісаны ў 1880 годзе ў царскай Расіі.

**Алесь Барскі**



Л. Тарасэвіч падчас падрыхтоўкі выстаўкі сваіх работ у Галерэі Нордэнхаке ў Стакгольме.

Фота Ю. Гольцэра.

# ПРАЦАВІТЫ ГОД Л. ТАРАСЭВІЧА

Нядаўна вядомы ўсім нам беларускі мастак Л. Тарасэвіч вярнуўся ў свае родныя Валілы з далёкай Швецыі. Там, у Стакгольме, у галерэях Боібрына і Нордэнхаке экспанаваліся дзве персанальныя выстаўкі яго новых работ, а таксама прац з папярэдняй выстаўкі ў Лондане. Стакгольмскія выстаўкі адкрыліся 29 лістапада 86 г. і працавалі да канца мінулага года. Карысталіся яны вялікім зацікаўленнем у стакгольмцаў. У газетах паявіліся вельмі прыхільныя рэцэнзіі. Адну з работ узяў у свае зборы Музей сучаснага мастацтва ў Хельсінкі (Фінляндыя). Частка з экспанаваных на абодвух выстаўках карцін паедзе ў Нью-Йорк, дзе ў маі г.г. таксама будуць адкрыты дзве персанальныя выстаўкі Л. Тарасэвіча.

Перад нашым мастаком у бягучым годзе яшчэ: вясной выстаўка яго работ у галерэі „Фоксаль" у Варшаве, удзел у Міжнародным бенале сучаснага мастацтва ў Сан-Паўла ў Бразіліі, восенню, нарэшце, выстаўка ў Беластоку ў Арсенале, а ў Аксфордзе, у Англіі, таксама персанальная выстаўка. Не мала, праўда?

Зычым поспеху і шчасця нашаму мастаку ў вялікіх падарожжах па свеце! **(мг)**

# „ДУРНЯ КЛЕІЦЬ"

Калісьці я даў сабе зарок, што ніколі больш не куплю вырабаў Сакольскага аддзела Вытворчапаслуговай арцелі. Прычынаю таго быў гуміарабік, які, замест склейваць, нічагуткі не склейваў. Пісаў я пра тое ў „Ніве" ад 19 сакавіка 1978 года, амаль дзесяць гадоў назад. Але гады мінаюць, чалавек забываецца пра свае зарокі і зноў робіць тую самую памылку. Вось зусім нядаўна чорт спакусіў мяне купіць белы клей, дэкстрынавы, сакольскага вырабу якраз. Адчыніў я слоічак з гэтым клеем, узяўся склейваць паперу... Назаўтра зноў спрабаваў, адчыніў той слоік, а з яго бухнуў такі смурод цвілі, што аж у носе закруціла! Клей у ім, як быў белы, то зрабіўся зялёны. І я яшчэ раз даў сабе зарок: ніколі больш не буду купляць таго сакольскага клею!

І дзіўна неяк, што праз столькі гадоў сакольская фірма „дурня клеіць" і ніхто ёй, як відаць, не даў за гэта па шапцы. Не дзіва, што ў нас некаторыя ўсё жыццё „дурня клеяць" і зусім добра жывуць...

**П. Байко**

(Працяг са стар. 3)

### ФЁКЛА

ся да сцяны мураванкі. Без парога, з крывым ваконцам і трубой ад пліты, што кашляе едкім дымам.

— А чаго аба мне пісаць? Трэба для людзей пісаць аб добрым і прыгожым, дзетка. Дзеля таго людзі чытаюць, каб лепей жылося. Я ў друкаваным не разбіраюся, бо не прыйшлося вучыцца, але так думаю. А так начытаецца чалавек, і сум на яго нойдзе. А навошта гэты сум?

**Міра Лукша**

## САКРАТ ЯНОВІЧ

# СКРОЎБА

Сціхнасць у днеласці запаноўвала.

— Куды валачэш мяне на ўвязі гэтай?! — ні з таго, ні з сяго закрычаў мазаўшанец, малады, дык і нетрывушчы.

— Чаго табе там? — Скроўба тузануў повадамі. — Пацярпі, боўт, бліз Аношкавіка азярыны зляжам; лёд праб'ем, рыбы нахапаем смакотнае! — І засмяяўся, сам дзівуючыся сваёй весялечы: „Гэта ад удачы так сіла нячыстая вылятае з мяне".

Пушчоўе зрэдзілася відавочна, у нізок як бы; сцежка ўзвілася ў заснежанні, звярыная бачна, але, супроціў усячнае нечаканасці, ён падалей адбіўся ад яе, аж у завальнях занікла яна. У прагалінні прасторка выхінулася гладзюткая.

— Вось і Аношкавік табе, — прабубніў Скроўба. Паблізу дзікі гудзелі, у балоцінцы ля віроў крынічных з быстрынямі, свіння свінню кусала, з цеплаватага ад гнілі логвішча выганяючыся. А дзе вэрхалу гэтулькі, туды і шэры падгалы наведвацца або і ган'ё іх.

Дзяцюк, гэты дзяцючык існы, калі рыскун торбу з харчункамі развязаў, знепрытомніўся ад прогаладдзі, у грумак пагрузнуў, як старэча які бязногі, і на мякіш кумпяка высляпіўся ён, якім падсілкаваліся неўзабаўку ў ахвоту, і сухарыскі хрумстаючы, беласнежжам запіваючы, каб дзеля кіпеню пахноцця агнішчанскага не напусціць у ваколле. Пераелі сабе, адзін у аднаго ўтарапелыя па-сабачаму.

— Няхай ідзецьму вольна, — сказаў юнеча, а Скроўба на тое сквасіўся, болей на пасмешку.

— Кінь ты гаварыць гэта, раз урэшце, — адказаў яму гняўліва. — Еш во, пакуль даю табе.

Той жа, яму ўперабіўкі, свой голас зноў падаў:

— Будзьце ж справядлівым!

— Справядлівасць мяне не цікавіць.

— Вы мне здаваліся мудрасным...

— Мудрыкаў шукаючы, падшыванец, памылак дапусцішся куды больш, чымсьці дурняў выглядзьваючы, — пабаўляўся Скроўба з хлапчанём.

— Вы ж ведзяце мяне на гібеліну! Самі кажаце...

— Мо і на гіблавіну... Нельга ж уладу займець, не забіваючы ды не ашукоўваючы, скажу табе. Не збрыдай мне, будзь ласкаў.

— Асобень з вас падлюгны!

— Як і патрэбна якраз, — скрозь зубы працадзіў рыскун.

Ад адмоўчвання відней стаецца.

Гаркавіча зямлю абмінуў ускраёчкам моглiцаў паганскіх — хай падумае ён, што жмудзіны гэта бадзяюцца, перад ахрышчэннем уцякаючы альбо жа яцвягі, прыжылыя сям-там па выйнях лесавіковых.

Скроўбу чарвяк падточваў душэўны, і ён стручваў яго на свой ладзішча. „Вайну сам Бог спаслаў нам, вонную пару ўзвышэнняў лёгкіх кожнаму, каму сумленне не завалаю ёсцька".

Ці магчымае дрэнь-горшае на-

# СЯМЯНЕ

Калектыву „Сямяне“ ўсяго два гады ад яго нараджэння, але за сабой ён мае ўжо 29 выступленняў на сцэне. Аж 7 разоў і заўсёды з новай праграмай выступаў у роднай вёсцы Семяноўцы. Выступалі таксама і ў навакольных мясцовасцях: у Свінароях, Альхоўцы, Міхалове, Махнатым, Гарадку, Скупаве, Навасадах і іншых. Спявалі таксама на дажынках у Нарве. Праграма ў іх заўсёды багатая, цікавая і разнастайная — можна пачуць беларускія, рускія і ўкраінскія песні, вершы, гумар, пабачыць вельмі займальныя скетчы. Ставілі „Сямяне“ таксама п'есы „Суд“ і „Прымакі“. 7 лістапада мінулага года „Сямяне“ выступілі ў Альхоўцы на гміннай урачыстасці, прысвечанай 69-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. 14 лістапада гасцявалі яны ў Гарадку, дзе наладзілі Дзень сеньёра. 15 лістапада супольна з вакальна - інструментальным калектывам „Апатар“ з Міхалова выступілі з новай праграмай у Семяноўцы і на гэтым закончылі сваю работу ў 1986 годзе.

Семяноўскія самадзейнікі, а іх 17 чалавек, заўсёды знаходзяць сярод любіцеляў сцэны і беларускай песні шчыры і цёплы прыём. Пры вялікай дапамозе начальніка гміны Нараўка Мікалая Павільча калектыў „Сямяне“ змог набыць частку музычных інструментаў і другі камплект новых строяў.

Хочацца падкрэсліць, што „Сямяне“ актыўна дзейнічаюць у сваім асяроддзі і пры іх паўстае новы, малады вакальна - інструментальны калектыў. Гэта заслуга гмінных улад і працавітага нястомнага Янкі Шыманюка — кіраўніка гэтага калектыву. Шчырае дзякуй вам абодвум за ваш вялікі ўклад у папулярызацыю роднага беларускага слова і песні! Думаю, што гэта можа быць узорам для іншых гмінных улад.

Шчырае дзякуй вам, дарагія „Сямяне“, энтузіясты сцэны, за вашу працу ў 1986 годзе. Не адзін можа пазайздросціць вашым здольнасцям, працавітасці і самаахвярнасці. Жадаем вам удачы. Да новых сустрэч у 1987 годзе!

З Новым Годам і з новым шчасцем!

**Ганна**

# ПАРНАСІК

*чытальніцкая літсупоўка на негарантаваных палях*

## ТАНІ ЛАЎРЭШ

Ужо і Зубкі. Далей лес і поле.
Адно змяняецца другім.
І колькі тут знаёмага раздолля!
О Таня, ссябралася ты з ім.

Восень на двары, і лісці ападаюць
На зелень азіміны, што расце,
Праменні сонца зрэдку заглядаюць,
Зіма ўсё бліздіцца, ідзе.

А от жа ўжо — і Свіслачаны.
Ў пачатку іх вялізны крыж стаіць.
Кім і калі ён быў тут збудаваны?
Нават памяць дзедава не дабяжыць.

Цяпер ты, Таня, на радзіме.
Тут гняздо тваё, сярод сваіх расла.
І дзе б ты не жыла, — з табой быў
кравід айчыны,
Ў якім шчаслівая была.

Куды не глянь, цяпер адны дзядзькі
ды цёткі,
А моладзь ў гарады сплыла.
Дык дзе ж вы, дзе вы, хлопчыкі
й малодкі,
Чаму ж вы адракліся ад роднага сяла?...

**М. Базылюк**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do notatki prasowej „Trudności szkoły gminnej” opublikowanej na łamach tygodnika „Niwa” nr 49/86, Kuratorium Oświaty i Wychowania wyjaśnia, że Szkoła Podstawowa w Narewce mieści się w budynkach, których stan techniczny nie budzi zastrzeżeń. Budynki są wyposażone w instalacje wodno-kanalizacyjną, centralnego ogrzewania i elektryczną.

Szkoła posiada 12 pomieszczeń do zajęć lekcyjnych, w tym 10 sal do zajęć przedmiotowych oraz 2 sale gimnastyczne zastępcze do zajęć z kultury fizycznej.

W dniu 12 grudnia ubiegłego roku zakończono remont kapitalny w/w budynków.

W Szkole Podstawowej w Narewce uczy się w bieżącym roku szkolnym 280 uczniów. Zmianowość w szkole liczona stosunkiem liczby pomieszczeń do zajęć do liczby oddziałów w szkole wynosi 1,3. Jest to zmianowość stosunkowo niewielka, znacznie mniejsza w stosunku do zmianowości obserwowanej w wielu innych placówkach.

Prawdą jest, że lokalizacja szkoły w 4 różnych budynkach nie ułatwia organizacji zajęć dydaktyczno-wychowawczych. Niemniej jednak pozwala na efektywne wykonanie nałożonych na nią obowiązków.

W związku z tym, że w wielu szkołach podstawowych woj. białostockiego zmianowość, o której mowa, jest znacznie większa (sięgająca nieraz do 1,8 a nawet 2,0), a stan techniczny wielu obiektów oświatowych jest gorszy w porównaniu ze stanem obiektów oświatowych w Narewce, przy opracowywaniu planów inwestycyjnych w oświacie, budowę Szkoły Podstawowej w Narewce przewiduje się dopiero po roku 1990.

Wicekurator Oświaty i Wychowania
mgr **Zbigniew Kamionowski**
Białystok, 24.12.1986 r.

# БЕЛАРУСІКІ

**1979**

Abecedarski Ławrencij, Biełorussija i Rossija. Oczerki russko-biełorusskich swiaziej wtoroj połowiny XVI—XVII wieka. Mińsk 1978. Rec. Wisner Henryk. „Przegląd Historyczny”, 1979, z. 2, s. 358—359.

Aksamitau Anatolij, Biełaruskaja frazieałohija. Mińsk 1978. Rec. Olechowicz Mścisław, „Slavia Orientalis”, 1979, nr 4, s. 513—515.

Bartkiewicz Wiesława, K woprosu o kompozicyi powiestiej Wasilija Bykowa, 70-je gody. „Prace Humanistyczne”. Towarzystwo Naukowe w Rzeszowie. Wydział Nauk Humanistycznych i Społecznych, Seria I, 1979, nr 15, s. 7—17.

Łapicz Czesław, Semantyczna i etymologiczna analiza leksyki geograficznej ruskich gwar Białostocczyzny z hniazda znaczeniowego *gąszcz, zarośla, krżaki*. Zeszyty Naukowe Wydziału Humanistycznego. Uniwersytet Gdański, Slavistyka, 1979, nr 2, s. 37—56, mapy.

Kosman Marceli, Historia Białorusi. Wrocław 1979. Rec. Serczyk Władysław A(ndrzej), „Nowe Książki”, 1979, nr 19, s. 5—7.

Meleszko W.I., Istoczniki po socyalno-ekonomiczeskomu położeniju, kriestjan Biełorussii wo wtoroj połowinie XVII—XVIII ww. „Acta Baltico-Slavica”, t. 12, 1979, s. 217—250.

Pietruczuk Wasil, Było. (Życiorys mieszkańca Białegostoku). Tłum. z białor. Jerzy Plutowicz. „Kontrasty”, 1979, nr 10, s. 22—26, il.

Rogowski Stanisław, Polski Urząd do Spraw Mniejszości (1922—1937). „Acta Uniwersitatis Wratislaviensia”, nr 411, „Prawo”, 1979, t. 73, s. 3—19, tabl.

Sciacko Pawieł, Biełaruskaje narodnaje słowautwarennie. Mińsk 1977. Rec. Witkowski Wiesław. „Slavia Orientalis”, 1979, nr 3, s. 355—358.

Sielicki Franciszek, Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino byłej gminy Dolhinów, pow. wilejskiego. „Acta Universitatis Wratislaviensia”, 1979, t. 18, s. 11—114, nuty.

**Г.С.**

(Працяг са стар. 4)

## ПУСТАЗВОНЫ

каб ён адносіўся да каго з пагардаю, каб не ўшанаваў чалавека толькі таму, што хтосьці з вёскі.

Такіх, як Валодзя, ёсць больш. Нядаўна спаткаў я ў нашай гміннай управе сваяка, што пражывае ў Беластоку і займае там высокую пасаду. Ён, гэты мой сваяк, адразу і пры ўсіх прывітаўся са мною па-нашаму, па-беларуску гаворачы, мы і пра „Ніву“ трохі пагаварылі. Па сваёй адукацыі ён архітэктар. Гміннае ўрадніцтва проста не магло зразумець, чаму вялікі начальнік не па-польску гаворыць?!

**М. Панфілюк**

двор'е ад зліглacці са сцюдзёнасцю? У нядосытнасць! — Брыдаваць так усхацелася яму, бо ж і пашэнціла, хоць ты вазьмі ад таго ды за кульшу ўшчыпні сябе самога. А мог жа богведама колькі карпець у забор'і тым крынкаўскім, як і наказана было, ды з нічым на замак вярнуцца. А ён жа духам языка закардоннага вывалак дзеля даведкі намесніку гарадзенскаму, вось, ды са скуры вылазіць, якраз пручыся з ім узважана (не за жмені ўжо павязанага, дадаткова канаплянікам, але з пятлёю засмаргнутай на каўнеры пастаўленым кажуха, што на ім, спайманцы гэтым аблавухім). Адно, каб немач ліхая не пераступіла скуль пуцішча. „Пра караля Ягайлу вярзеў ён. Няўжо ж праўдэча ў тым якаясьці? От, пачуў ён званы ды не ўзведаў, дзе яны... Чаго ж каралю ў Літву заходзіць, калі неспакайнеча гэткая ў ёй! Гаспадары Кейстутовіч са Свідрыгайлам у сварах вялікіх між сабою застаюцца, адзін аднаго зваёўваюць неўгамонна, заўзятасна. А кароль, як кароль, — на гатовае паквапліваецца, мусіць, не прымерваючы, бы сват на дзеўку ўгадованую. Хто каго перакіне, з тым і гаварыць стане Ягайла, — рабіў выснову Скроўба. — — Ды што мне там да справаў паноў яснавяльможных. Я куплены імі, каб пронюхам сваім падслужваў, сюды-туды ў цікунак пранырваў спраўна...“

Прасцягі за Уснаром адольваў праз лазавікі, што поберагам стачка Баравіковага. Прышкадаваў ён быў валакітні накласці абыходамі адсюль, а і чалавечыну на галізне гэтай ветравейнай не ўстрэнеш так, як на ўзлессі прыселішчным, і звярэча ўсялякая крыважэрная скаліцца ў пару лютаўскую каля седлішчаў сялянскіх пераважна або гасцінцаў з тропамі конскімі. На Адэльск гарэла дзесьці, зарывам іграў па-над небакраем пажар у шэрань бяссонцавую.

Пляліся абодва ж яны ў засонні як бы, быццам і не трэба было ім паспець кудысьці. Ветрагоніка свайго рыскун за паваддзе менавіта вёў цераз змярзліны балотныя, ці не з правалінамі нетрывала заледзянелымі, што на тапілах, а як жа. Пакаўзнуцца на купеньцы боязь ёсць; чужаніца чакае таго здарэння спадзёўнага, каб уміг ярмоліча свайго прыплясчыць насмерць ды даць цягу, куды змога будзе яму, вярыгу расцяўшы. Ні за што, ні пра што на той свет праехаўся нягадана так жа сябрук Скроўбаў, пад Смаленскам...

На продухавінах азерцаў лыскі і качкі зімавалі, што ў вырай сабе не паадлятаілі, жыруючы ў цяплечных пльцізнах тваністых, хвасты пазадзіраўшы. Лось счарнелы, аблезлы, матляхаў мардасінаю клячападобнай; патырчэў быў у маркоце, зіркачы ўляпіўшы ў караванік іх жаласлівы, і пасунуўся ў прылесак на лежку. Грак, адбоек-самучок гэткі, калупаўся з подглядкам у разрыінах дзікавых, як баба тая на загонах ані чуць знепакоеная; курэла імгліца. Бязводгулле ўсюдкі ўглушылася; куды не адвернешся, неслыхноцце такоесьці ў навалач першую ліглясці (дай яшчэ дзянёк — і пачутнее).

Слабізна прадымлівала Скроўбу, вягнуў ён, бы свечка, пастаўленая лішне ўсярод дагараючых перад іконаю Божамаці ва ўсяночную велікодную, або як у п'янюгаванне знясільваючае, калі даюць ласунам піва на запойку (тады — хутка бярэ і доўга трымае!). Шыя целяпнела, бараду ж хоць ты мячом падпірай ці трохзубцамі бойнымі... „Адпачнечы ў ложавіне надта ж мала дагадзіў я сабе, — сердаваў рыскун. — Паваліся тут, дык заснуць жа гатоў я, не дай Бог і Пяруне ўсямоцныя!“

— А хто ты сам будзеш, га? — Скроўба пацікавіўся ім жа, вязенцам, у перадых.

— Трэба гэта вам?

— Мне? Чаму? Не-а.

— Дык чаго?

— Сон хіліць, то і гавару...

— Замяніліся б вы са мною месцам — пажвавелі б.

— Ты... Ты зважай, да каго гэта так! Бач яго: параўнаўся, сысунец! — закіпянела ў рыскуне. „Благі з мяне служывец — з людзьмі звыкаюся. Спагада ў дзеянні дзяржаўным завяла пад тапор не аднаго ўжо ж...“

**Працяг будзе**




## ВЫКУП СКРЫНІ

Скрыня была галоўным рэквізітам прыдання.. У ёй знаходзілася значная частка пасагу маладой. Галоўным чынам кужаль, радзюжкі, дываны, вопратка, абутак, а таксама тэкстыльныя падарункі, якія атрымала маладая ў час „перапівання". Скрыня была месцам, у якім захоўваліся тыя падарункі, што маладая падрыхтавала для свякрухі, свёкра, братоў і сясцёр свайго мужа. Зразумела, што ад памераў скрыні, а перш за ўсё ад тых рэчаў, якія ў ёй знаходзіліся, залежыў прэсціж, аўтарытэт і пазіцыя маладой жанчыны ў новай сям'і.

„Калі хочэш, — гаворыць жыхарка вёскі Бандары, Палагея Бура, — то я табе раскажу пра скрыню. Але ў нас то таксамо часто называлі яе сундуком. Ну, а што ў ёй было — усенька: і пасцель, і кужэль, і адзежа, і абужа, і радзёжкі, і дываны, і ручнікі, і макаткі, і ўсё тое, што маладой падарылі ў час вяселя. Ну, але бывало і так, што таго цэлаго багацтва ў скрыні то было вельмі мала, бо ведомо, што людзі жылі вельмі бедно. Ну, та што рабілі? Калі цэлого того багацтва было вельмі мало, то тады ў скрыню на дно пхалі абышто. Накладут, бывало, ходнікоў саматканых, або навет мешкоў. Я то сама гэтого не бачыла, але нікаторы гаварылі, што калі ні вельмі было чаго палажыць у скрыню, то ўбалоўвалі у яе камене або цэглы, каб, значыцца, цяжко было і каб усе думалі, што там много багацтва. Ну, але з тым каменем то было ні вельмі так просто і беспечно, бо говорылі, што бывало і такое, што весельнікі маладого маглі адкрыць скрыню і усенько перавернуць уверх нагамі. Ну, і калі ўжэ знашлі там, ні дай Бог, якоесь барахло, або камене, то ўжэ той маладой, або яе бацькам хоць ты ў сраку очы сунь. Вельмі ужэ, значыт, ім было брыдко. А тады ўжэ весельнікі з боку маладого, як тыя сабакі, здзекваліся і ўсё брахалі...

...А чом ты гэто ўсё запісваеш і запісваеш? Што гэто, можэ ты ксёнжку аб гэтом хочэш напісаць або якую ашэ іншу ірунду зробіш? Ой, Шурык, Шурык. Глядзі, каб цябе гэты розум до чаго дурного не давёў!"

Пасля доўгага торгу за скрыню ў канцы канцоў гаспадары ўручалі госцям бутэльку гарэлкі. Аднак, часта была гэта бутэлька з вадой, залакаваная так званым „сургучом", на якім умела манетай адбівалі форму арла, упадабляючы яе да дзяржаўных бутэлек з гарэлкай. Аднак госці былі вельмі чуйныя, правяралі бутэльку і, калі аказалася, што ў ёй знаходзіцца вада, дык торг за скрыню паўтараўся аднова. І трываў так доўга, аж у канцы канцоў „прыданцы" атрымлівалі праўдзівую гарэлку. Калі выкуп урэшце фіналізаваўся, тады да скрыні падбягалі госці маладога, хапалі яе, паднімалі і кідалі назад на воз. Пры гэтым спявалі куплеты такога тыпу:

Лёгка скрыня,
Лёгка скрыня,
Маладая леніва.
Вечарамі спала,
Палатна не наткала.

Або:

Маладая ў скрыню
Камене паклала,
Радном прыкрыла,
Саяном заслала.

Госці з боку маладой, як іх называлі „прыданцы" або „прыданнікі", рэплікавалі:

Няпраўданька ваша,
Добра (імя маладой) наша,
Добра яе скрыня,
Добра з яе гаспадыня.

Пасля гэтага вясельнікі з боку маладога знімалі скрыню з воза і неслі ў хату. Усе госці ішлі ўслед за ёю, сядалі за сталы, і пачыналася вясельная бяседа, якая па сутнасці амаль цалкам пакрывалася з вясельнай бяседай у хаце бацькоў маладой.

Пасля „перапівання", у якім прымалі ўдзел толькі госці маладога, маладая адкрывала скрыню, вымала з яе падарункі і раздавала іх членам сям'і мужа. Былі гэта, як правіла, спадніцы і блузкі, шапкі, хусткі. Наогул падарункі не належалі да дарагіх, наадварот, былі наогул танныя і мелі хутчэй сімвалічнае, чым фінансавае значэнне.

Нягледзячы на гэта, прысутныя вельмі ўважна прыглядаліся да падарункаў і, зразумела, іх якасць і характар сустракаліся з акрэсленымі каментарыямі.

**А. Баршчэўскі**




## КІСЛАЯ КАПУСТА

На суп з кіслай капусты трэба ўзяць паўкілаграма касцей, паўкілаграма капусты, 1 морквіну, палавіну пятрушкі, 1 цыбуліну, 3 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 2 чайныя лыжачкі мукі, 1 сталовую лыжку тлушчу, 2 сталовыя лыжкі смятаны, перац у зёрнах, лаўровы лісток, зеляніну, соль.

Зварыць адвар на касцях. Кіслую капусту палажыць у каструлю, дадаць крыху адвару, тлушч і памідорны перацёр ды тушыць пад крышкай, памешваючы ад часу да часу. На дзесяць мінут перад заканчэннем тушэння дадаць нарэзаныя саломкай і падсмажаныя моркву, пятрушку і цыбулю. У кіпячы адвар класці тушаную гародніну, а праз дваццаць мінут дадаць засмажку з мукі, перац у зёрнах, лаўровы лісток і соль па смаку. Усё зварыць. Перад падачай на стол, дадаць у капусту смятану і дробна парэзаную зеляніну.

## КІСЛАЯ КАПУСТА З ФАСОЛЯЙ

На 500 г касцей ялавічыны трэба ўзяць 400 г кіслай капусты, паўшклянкі фасолі, 1 морквіну, палавіну пятрушкі, 1 цыбулю, 2 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 2 чайныя лыжачкі мукі, 2 сталовыя лыжкі тлушчу, лыжку смятаны, перац, лаўровы лісток, зеляніну, соль.

Зварыць адвар на касцях. Фасолю перабраць і трымаць у вадзе 5—8 гадзін, каб набрыняла, пасля чаго зварыць (не дадаючы солі), але так, каб фасоля была яшчэ цвердаватая. Кіслую капусту палажыць у каструльку, дадаць крыху адвару, памідорны перацёр, тлушч і нарэзаную гародніну ды тушыць пад крышкай каля паўтары гадзіны, памешваючы ад часу да часу. У гарачы адвар палажыць тушаную капусту і фасолю і варыць на малым агні. На 10—15 мінут перад заканчэннем гатавання дадаць у капусту засмажку, а таксама перац, лаўровы ліст і соль па смаку Капусту падаем са смятанай і зелянінай.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка! Мне ўжо 75 год, а я вырашыла звярнуцца да цябе за парадай. Толькі ты не ўсміхайся і не рабі жартаў: справа, вядома, датычыцца не мяне, а майго зяця, з якім разам я жыву. 10 гадоў таму назад у нашай сям'і здарылася няшчасце: зусім нечакана памерла ад нейкіх уколаў мая дачка. Усё гэта звалілася на нас, як гром з яснага неба. І засталіся мы жыць утраіх: я, мой зяць і 12-гадовая ўнучка. Сёння мая ўнучка стала ўжо маці маленькага хлопчыка, майго праўнука. Яна спакойна ідзе на работу, як і яе муж і яе бацька, а я застаюся дома, даглядаю малога, раблю з ім пакупкі, вару абед. Усе мы жывем вельмі дружна. Грошы, зробленыя маладымі, і мая пенсія ідуць у адзін супольны кацёл.

Але вось у апошні час пачалі мяне праследаваць неспакойныя думкі: што будзе, калі я памру? І, хаця вельмі перажываю яшчэ да сёння смерць маёй дачкі, то вырашыла я, што трэба было б ажаніць майго зяця. Ужо нават знайшла я яму некалькі кандыдатак і хацела яго пазнаёміць з імі. На жаль, зяць не згаджаецца на ніякія знаёмствы з жанчынамі, усё гаворыць, што такой, як была мая дачка, ён ужо не знойдзе. І так жыве ўдаўцом, знаходзячы радасць толькі ў справах дачкі і ў маленькім унуку. Ці ж ён не разумее, што мне таксама балюча, калі падумаю, што ён будзе з іншай жанчынай, але ўсё ж калі ўяўлю сабе, што стане ён толькі цяжарам для сваёй дачкі пасля маёй смерці, дык вельмі хацела б, каб ён жаніўся і меў свой дом ды жаночую апеку. А як ты думаеш, Сэрцайка, ці маю я рацыю?

**Еўдакія**

Еўдакія! Ты — чалавек немалады, і мне ў цябе трэба было б павучыцца, а ты пытаешся, пра параду ў мяне... Здаецца мне, што твае разважанні вельмі слушныя. Пакуль жывеш ты — існуе ваш добры, дружны дом. Але ты яго цэментуеш. Ты ў ім трымаеш лад і парадак і ты вырашаеш аб справах гэтага дому. Калі ж забракне цябе — усё можа рассыпацца. Твая ўнучка, напэўна, прызвычаілася да вялікай апекі, якую адчувала з твайго боку, а таксама да выгоднага жыцця, у якім не мае занадта многа абавязкаў. Ты займаешся дзіцём і домам, пакупкамі і кухняй, і, калі б не стала цябе, то гэтае мноства абавязкаў звалілася б у асноўным на тваю ўнучку. Дык ці патрэбны ёй будзе яшчэ ў хаце мужчына-пенсіянер, хаця і быў бы ён яе бацькам?! Напэўна ты мяркуеш слушна, што лепш было б, каб твой зяць ажаніўся і стварыў нейкі свой асобны дом, хаця і не быў бы гэта такі дом, які застаўся ў яго памяці, калі жыла яшчэ твая дачка. Трэба, аднак, шанаваць зяця за яго вялікія пачуцці да тваёй дачкі, калі сярод столькіх жанчын не бачыць роўнай ёй.

Хочаш, каб ён ажаніўся — то не старайся яго знаёміць, сватаць на сілу. Трэба зрабіць гэта вельмі дыскрэтна і далікатна, не папярэджваць яго аб гэтым, але так заараанжаваць усё, каб ён нават не здагадаўся, якую ролю адыграла ты ва ўсім гэтым. Можа, тады што-небудзь з тваіх планаў выйдзе.

Добрая з цябе цешча, каб усе такія былі...

**Сэрцайка**

## ГРОДЗЕНЦЫ Ў БЕЛАСТОКУ

У Беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі п'есу Ю. Бондарава „Выбар" ставіць гродзенскі рэжысёр Ігар Пятроўскі, сцэнаграфія таксама гродзенца Кірылы Чамякова.

Прэм'ера 24.I.87 г. Пачатак а 19-й гадзіне. Запрашаем.




56

**Костачка** (з фрукта) — натрапіш на супраціўленне.

**Косці** — цяжкасці; гуляць імі — невялікая страта; абглодваць — нястачы; збіраць — ашчаднасцю даб'ешся дабрабыту; спальваць — смутак; ламаць, раструшчваць — страта прыяцеляў.

**Косць** слановая — выгада.

**Кот** — гарачае каханне, але таксама і фальшывы прыяцель: мяўкаючы — зацяжны судовы працэс; кацячае футра — знойдзеная згуба; быць падрапаным катом — мусіш перажыць няўдачы; чорны — няшчасце, зайздрасць; лашчыць яго — няўдзячнасць.

**Коўдра,** коц — трэба мець адвагу.

**Кош** закрыты — адкрыеш таямніцу; пусты — каханне без узаемнасці; плясці — пакуты; многа кашоў — неспадзяваная заможнасць; з кветкамі — шчасце ў каханні.

**Кпіны** — непрыемнасці.

**Кравец** — справа, дачыненне з лёгкадумным чалавекам; гаварыць з ім — значныя кошты.

**Краіна** чужая — прыемнае падарожжа.

**Кракадзіл** — крывадушлівыя сябры.

**Крама** — дарэмная праца; зачыненая — няўдачы; прамінуць яе — пазбегнуць спакусы; быць у ей — выдаткі.

**Крамар,** прадавец — пільнасцю зайдзеш далёка.

**Крапіва** — зробіш бяссэнсавы ўчынак.

**Крапіла** — прыемная неспадзяванка.

**Крапільніца** — пошукі падтрымкі.

**Красці** — лёгкі даход, няўдачы.

**Краты** — доўгая адсутнасць дарагой сэрцу асобы; глядзець праз іх — вялікія страты.

**Краявід** — прыгожае і прыемнае падарожжа; гарысты — без цяжкасцей будзеш мець карысці.

**Кролік** — крывадушлівыя прыяцелі; есці — дабрабыт; забіваць — страта; белы — радасць.

**Кроп,** укроп (расліна ў гародзе) — задаволься малым.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У школе № 3 у Бельску „Зорка“ трапіла якраз на штотыднёвы апэль малодшых класаў. У гэты дзень падрыхтавалі яго першакласнікі. Тэма была вельмі надзённая — зімовыя гульні. Дзеці выступілі з канькамі, лыжамі. Расказвалі вершыкі і спявалі пра вясёлую, радасную зіму, пра мароз і гульні на снезе, пра наваголнюю ёлку і падарункі Дзеда Мароза. Вялікай прыемнасцю было выступленне з мікрафонам, а малыя артысты захоўваліся на сцэне як бы рабілі гэта штодзень. Памагалі дзецям падрыхтавацца да выступленняў іх класныя выхаваўцы — настаўнікі.

Фота Я. Чэрнякевіч

Ільля Шахрай

### ЯК ВЫНАЙШЛІ МАННУЮ КАШУ

Гэта гісторыя адбылася ў старажытныя часы, калі жылі-былі на свеце асілкі. Усе яны любілі ўволю паесці кашы. І калі, бывала, які з іх прайграе ў баі ці ў гульні, пра яго людзі казалі: „Мала кашы еў“.

Дык вось, аднойчы пасварыліся два суседы. Ну, каб звычайныя гэта былі людзі; то пасварыліся б яны, паскардзіліся б адзін на аднаго іншым суседзям, а тыя памірылі б іх, і справе канец. А тут князі паспрачаліся. Вось збіраюць яны па дружыне, хочуць ісці адзін на аднаго вайною. Але дружыннікі ваяваць за нейкую там дробязь не захацелі, парашылі выбраць ад кожнай дружыны па асілку. Хто з іх у адзінаборстве пераможа — дык усёй той дружыне і таму князю перамога.

Такія паядынкі тады адбываліся зранку.

Адзін асілак падняўся, пачысціў зубы, апрануўся, зрабіў размінку, а галоўнае — паспеў зварыць сабе кашы і добра наесціся.

Другому ж асілку вельмі соладка ў тую раніцу спалася. А як падхапіўся, дык ужо нічога, акрамя як пятыліцу пачухаць не паспеў. Пра кашу няма чаго і казаць: яна ж тады доўга варылася, бо гатавалі кашу з цэлых зярнят. Так і пайшоў на той турнір з нячышчанымі зубамі і галодны. Ну і, зразумела, прайграў.

Што да князя, які спрэчку прайграў, дык ён так раззлаваўся на асілка, што не дазволіў небараку і блізка падысці да дружыны. Прывёў яго на кухню і загадаў:

— Пакуль не навучышся хутка варыць смачную і пажыўную кашу, у дружыну не вернешся.

Узяўся бедалага за работу. З такім запалам перабіраў крупы, што раструшчыў іх на драбнюткія макулінкі. І не паспеў паставіць кашу на пліту, як яна была ўжо гатовая. Так з'явілася манная каша.

І ўзялі на ўзбраенне дружыннікі гэтую кашу, што хутка варылася, і пачалі ўсіх перамагаць. Перамагалі, перамагалі, пакуль сакрэту не разведалі супрацўнікі...

А потым ужо кашу пачалі есці ўсе. І дзеці таксама. Бо хто ж не хоча стаць асілкам?

Л. Лавепкі

### СНЯГІР

За акном траскучы мароз. Я якраз паабедаў, калі ў фортачку заляцела птушачка і села на стале. Гэта быў стары каляровы снягір. Ён сядзеў нерухома натапырыўшы пёркі і выставіўшы чырвоную грудку.

Сагрэўшыся, госць дзюбнуў крушынку хлеба, перачакаў — дзюбнуў другую. А потым узяўся за буханку і выдзеўб у ёй цэлую пячору. Наеўшыся, бесцырымонны нахлебнік узляцеў на дзвярны касяк і заснуў.

Прыжыўся ў мяне гэты гультай, які прызнаваў толькі стол, дзе еў, і дзвярны касяк, дзе спаў. Праўда, ён не толькі еў і спаў, а яшчэ прабаваў спяваць. Аднойчы яго песня нагадвала скрып нямазанага кола. За гэта да снегіра адразу ж прычапілася клічка Скрыпун.

Магчыма, пры першым пацяпленні я выгнаў бы няпрошанага кватаранта, калі б ён не быў такі прыгожы.

Аднойчы сонца асабліва прыемна грэла, а я зраніцы цёпла апрануўся, сагрэўся і пасля працы ледзь прывалок ногі. Раздзеўшыся, я заваліўся на ложак і хутка задрамаў. І раптам да майго вуха данеслася нечуванай прыгажосці насвістванне песні „Цячэ рэчанька невялічанька“. Заварожаны, я асцярожна выглянуў у акно. За ім нікога не было. Агледзеў пакой...

Як ні дзіўна, але гэта мой Скрыпун, звесіўшы крылы і шырока раскрыўшы дзюбу, сядзеў на дзвярным касяку і заліваўся чалавечай песняй. Адно і тое ж горлачка, аказваецца, магло скрыпець нямазаным колам і зачароўваць душу песняй.

На ўскраіне горада, як і на вёсцы, навіны разыходзяцца хутка. Праз некалькі мінут у маю хатку набілася паўнюсенька суседзяў. Нават сварлівая жанчына з тварам заўсёды злосным і хмурным, прыйшла

(Працяг на стар. 10)

Янка Купала

### МАРОЗ

Іду я, сняжысты, ўсясільны,
Па сцежках-пуцінах пустых,
І ночкай і днём безупынна
Пільную абшараў сваіх.

Бязмежна, уладарна паную
Пад сховаю пушчавых вех,
Каронаю бор мне зялёны,
А тронам-пасадам бел снег.

Палац мой — лес буйны,
вяцвісты —
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь.
Мне воўк і мядзведзь
у паслугах,
Мне служаць вавёрка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і ёлку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казкі шапчу ім аб шчасці,
І цемру зганяю з вачэй...
Хадзіце, хадзіце к марозу!
Хадзіце у госці хутчэй!






Віктар Швед

### ЛЫЖЫ

Як намяло шмат гурб ля хаты,
Што цешыла так хлапчукоў,
Зрабіў мне лыжы добры тата,
На іх я ездзіў шмат гадоў.

Калі я толькі еду ў горад
Марознай зімняю парой
Уваскрасае вёска Мора
І я на лыжах з дзетварой.

І так мне хочацца ізноўку
На лыжы стануць хоць разок,
Як лыжнікі з пагоркаў лоўка
Імчаць праз беленькі сняжок.

Гады, на жаль, ужо не тыя,
Старыя косці, на бяду.
Імчаць на лыжах маладыя,
Я ж пехатой брыду, брыду...

### ЗІМА ПРЫЕХАЛА НА САНКАХ

Так бела-бела сёння зранку,
Так чыста-чысценька кругом.
Зіма прыехала на санках,
Прырода спіць спакойным сном.

Зіма ўсе рэкі і азёры
Ужо зняволіла ў ільдах.
І дзетвара ўжо скора-скора
Тут будзе ездзіць на каньках.

На санках паімчыць з пагоркаў,
Калі пачнецца толькі дзень.
Хаця мароз на панадворку —
Ніяк у хаце не ўсядзець!

Зіма, зіма, ты сёння госцем,
А заўтра — поўны гаспадар.
Колькі ж ты маеш прыгажосці,
Колькі ж навейваеш ты мар!

## ВОЎК І КАЗЛЯНЯТЫ

У сапраўднасці яно было так. Воўк у лесе быў, па-нашаму кажучы, кантралёрам. Усім цікавіўся, усё правяраў.

Набрыў ён неяк на хату, дзе жыла тая самая Каза, у якое было, як вядома, сямёра казлянят.

Казы ў той час дома не было — ці ж мала турбот у шматдзетнае маці?!

Пастукаў Воўк у хату і спытаў:

— Колькі вас тут жыве?

Таварыш, магчыма, цікавіцца нормамі жылплошчы, а казлянят перапалохаліся. Адно, якое лічылася сярод іх найбольш кемлівым, і прапанавала:

— Трэба сказаць, што нас тут болей — тады, можа, Воўк спалохаецца. Паслухалі казлянятты параду кемлівага і гукнулі:

— Нас тут аж чатырнаццаць!

— Цудоўна! — сказаў Воўк. — Тады няхай сямёра выйдуць... — Так, — вырашыў ён, калі казлянятты выйшлі, — вы пойдзеце са мною, а тыя сямёра, якія ў хаце, вашай маме застануцца. Гэта будзе справядліва.

Калі Каза вярнулася і не застала ў хаце ніводнага казляняці, у яе пачаўся сардэчны прыступ.

Вывад: трэба ў бліжэйшы час пакончыць з прыпіскамі, якія прыводзяць да вельмі непрыемных вынікаў, а часам нават і да ахвяр.

**Аўсей Крукавец**

## З НАТАТАК ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„У хворага вельмі чуткі сон. Як толькі хто-небудзь уключыць прыёмнік або тэлевізар, ён тут жа прачынаецца".








## АПРАЎДАЎСЯ

— Ты зноў спазніўся на работу?

— Ведаеце, мне прысніўся футбольны матч. Суддзя назначыў дадатковы час, і я вырашыў даглядзець сустрэчу...

## У ГОСЦІ

Бабуля едзе ў аўтобусе з малым унукам у горад.

— Куды едзеш, Міколка? — пытаюць яго аднавяскоўцы.

— У госці, — паважна адказвае той.

— Да каго?

— Да мамы і таты.

## У ВАРОЖКІ

— Вы выяўляеце толькі будучыню ці мінулае таксама?

— І тое, і гэтае.

— У такім выпадку, калі ласка, адкрыйце мне мінулае маёй будучай жонкі.

## ВОСЬ ХВАРОБА!

Сустрэліся дзве задрыпанкі.

— Непрыемная ў майго мужа хвароба, — бядуе адна. — Вось вып'е сто грамаў, а потым, бедны, дзень мучыцца. З сэрцам нешта...

— Э, не такая ўжо і страшная ў яго хвароба. А вось мой як не вып'е зранку сто грамаў, вось ужо мучыцца...

— Татка! Я папрасіў цырульніка зрабіць мне такую ж самую прычоску, як у цябе!



Адным заглядаў у рот, іншым гатовы быў перагрызці горла.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сустракаюцца два шатландцы.

— Куды ідзеш? — пытае адзін.

— Тапіцца, — адказвае другі.

— Ты з глузду з'ехаў! У новым касцюме?!

*

Амерыканскі індзеец упершыню трапіў у Нью-Йорк. Робячы пакупкі, ён разгаварыўся з уладальнікам крамы.

— Вам спадабаўся наш горад? — спытаў той.

— Ён цудоўны, — адказаў індзеец. — А як вам падабаецца наша краіна?

*

Дзве англічанкі падарожнічаюць па Грэцыі.

— Давай сфатаграфую цябе на фоне руінаў гэтага храма.

— Глядзі толькі, каб мая машына не трапіла ў кадр, — адказвае сяброўка. — А то муж падумае, што гэта я ўрэзалася ў храм і разваліла яго.

## НОВЫ СТЫЛЬ

Ён калісь па стале дубасіў
кулаком:
— Не спаць!
Зрабіць!
Узняць!
Цяпер пітодня мянтэшыць
языком:
— Узняць!
Зрабіць!
Не спаць!
І лічыць ён — службоўцам
на здзіўленне! —
Што ўносіць свой уклад
у паскарэнне.

**Васіль Маеўскі**

### З „Весніка Задрыпоніі"

## ПАДЗЕЯ

Ноччу бухгалтар магазіна № 13/13 Грашэвіч быў нечакана разбуджаны прачнуўшымся сумленнем.

## ВЫДАТНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ

Разразаючы біфштэкс, Мышкун зламаў відэлец і затупіў нож. Афіцыянты рэстарана „Узлёт" праявілі максімум увагі і прынеслі новы сталовы прыбор.



## ВЫНЯТАК

Жыў у нашай вёсцы адзін п'янчужка. Звалі яго Панько. Як нап'ецца, то зачапае ўсіх, пакуль яго не адлупцуюць. Сталі жанчыны яго саромiць і кажуць:

— Чаго гэта ты, Панько, такі ўрэдны, што цябе скрозь б'юць?

— Не, — кажа, — не скрозь мяне білі.

— А дзе ж цябе яшчэ не білі?

— У Цюцькавічах.

— А чаму ж там не пабілі?

— Бо я там яшчэ не быў.

## ПОСПЕХІ

— Вы робіце вялікія поспехі! — гаворыць курсантцы інструктар школы. — Сёння вы ўпершыню выпярэджвалі грузавік з адкрытымі вачыма.



— Цяпер можна і адпачыць...




## МЕДЫЦЫНА І БІЗНЕС

Суд у Маніле (Філіпіны) вынес пастанову, што дзіця не можа быць залогам за даўгі бацькоў. Гэта — вынік шматгадовай цяжбы бацькоў дзіцяці, якое трапіла ў прыватную бальніцу адразу ж пасля нараджэння. Там яго вылечылі, але прад'явілі бацькам рахунак на суму, якую тыя маглі заплаціць толькі ў растэрміноўку. Гаспадары бальніцы пакінулі дзіця ў якасці залогу. Толькі пасля трохгадовай судовай справы заложнік быў вызвалены.

## ГРАБЕЖ ПАД МУЗЫКУ

У Рыо-дэ-Жанейра кватэрныя рабаўнікі „ачышчаюць" адразу цэлыя дамы. Нядаўна дзевяць узброеных бандытаў „узялі" дваццацікватэрны дом. 40 жыхароў, якія былі ў гэты час дома, яны сагналі на лесвічную пляцоўку верхняга паверха і трымалі іх там пад аховай дзесятага бандыта, пакуль яго хаўруснікі гаспадарылі ў кватэрах. А каб палонным было весялей, ахоўнік іграў ім на гітары.




Не рый другому яму, няхай рые сабе сам.